# Šlach Biełaruskaha Studenta

MIESIAČNY DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI".

№ 1 (5) Vilnia, Studzień 1939 h. Hod II.

## Z NOVYM HODAM

Z Novym Hodam ustupili my ŭ čas nierazhadanaj budučyni.

Na suśvietnym niebaśchile pranosiacca ciomnyja, časami złavieščyja, chmary.

Chto znaje, što jany nam pryniasuć?

Na Dalokim Uschodzie ŭściaž kipić jašče baraćba, na Zachodzie ŭściaž ihrajuć harmaty. Usiudy siła znachodzić rašučy adpor inšaj siły. Siarod niejkaj, mocna adčuvanaj, ciesnaty i duchaty, čujecca, jak kipić miascami adkrytaja, miascami cichaja, ale rašučaja baraćba za praŭdu, roŭnaść i spraviadlivaść.

Hitleroŭskaja Niamieččyna paśla biazkryvavaj pieramohi nad Čechasłavaččynaj i zaklučeńnia paktu ab nienapadańni z Francyjaj, pavodle svajho tradycyjnaha planu „Drang nach Osten" što raz bačniej pačała zvaročvać uvahu na słavianski ŭschod, dzie raścilajucca bahatyja ziemli Ukrainy i Biełarusi.

A što-ž dziejecca ŭ biełaruskim žyćci?

Dla lepšych synoŭ našaha Narodu nie chapaje ŭžo miesca ŭ histaryčnaj stalicy našaha Kraju i musiać jany vyjaždžać. Brak biełaruskaha škołnictva, kulturna-aśvietnych i haspadarčych arhanizacyjaŭ pabolšvaje sum dušy biełaruskaha studenta i kožnaha Biełarusa ahułam.

Nia ŭ ružovych kolerach pradstaŭlajecca žyćcio i na biełaruskaj vioscy.

Z adnej starany čujecca tut u šyrokich masach hoład ziamli, z druhoj starany sotni vałok marnujucca ŭ rukach niekalkich kniazioŭ, hrafaŭ dy inšaha roznaha hatunku panoŭ. Brak da hetaha aśviety ahułam, a pieradusim ziemlarobskaj, handlovaj i inš. pavialičaje biadu.

Chutka dziela hetaha rastuć rady viaskovaha praletarjatu, nikim nierejestravanaha, parabkoŭ i miestavych biezrabotnych.

Pad ciažaram ahulnaj biady ŭhinajecca siańnia našaja niesarhanizavanaja vioska, čakajučy niejkaj pieramieny na lepšaje, nia znajučy ad kaho i adkul jana pryjdzie.

U takich abstavinach pačynajem pracu ŭ hetym Novym Hodzie. Pačynajučy, treba było realna hlanuć na śviet i na našaje žyćcio, kab dakładna zdać sabie spravu, jakaja pierad nami praca, ad vieku čakajučaja na bolšy lik mocnych ruk i stalnych charaktaraŭ.

Dyk siańnia, u čas vialikaha suśvietnaha napružańnia i chutka naśpiavajučych padziejaŭ, bolš čymsia kali skonsalidavana i trezva pavinny my pracavać, kavać realnuju biełaruskuju siłu ŭ kožnaj halinie našaha žyćcia. Siańnia nia čas na ŭzajemnuju hryźniu, nia čas na roznyja asabistyja vypady...

Našaja budučynia ad nas samych zaležyć, ad našaj pracy.

Dyk z Novym Hodam zarčej, čymsia kali, my pavinny źviarnuć uvahu na pracu, pracavać u kožnaj halinie, pracavać jak tolki možna i kali možna, nie marnujučy času ani chvilinki. Dzirvanom jašče mnoha łažyć vialikaje biełaruskaje pole navuki, mastactva, racyjanalnaj haspadarki, techniki.

Musim stvaryć siłu pad kožnym uzhladam, pchnuć na novyja tory biełaruskaje žyćcio.

J. V.

## Siła idei

Cały rad minułych stahodździaŭ, a taksama sučasnyja padziei dakazali, jakuju vialikuju vahu maje hłybokaje ideolohičnaje pierakanańnie i nastaŭleńnie paasobnych adzinak, hrup i narodaŭ. Pryčynami ŭsich bolšych padziejaŭ minuŭščyny, jakija pakinuli svoj śled u historyi i parušyli vialikija masy ludziej, źjaŭlajucca ŭ pieršuju čarhu vysokija paryvajučyja idei, hałošanyja duchovymi pavadyrami narodaŭ, abo jakija spontanična zradzilisia ŭ nutry narodnych masaŭ i pabudžvali da najvyšejšych vysiłkaŭ i achviaraŭ. Tyja ŭsie zdabytki ŭ hramadzkim žyćci, katoryja paŭstali tolki šlacham prypadku, biaz hłybiejšaha ideolohičnaha padkładu, i isnujuć dziakujučy fizyčnaj sile, źjaŭlajucca niedaŭhaviečnymi, niažyćciovymi i łopajuć, jak mylnyja puzyry, pry najmienšym uzruchu, nie pakidajučy pa sabie amal nijakaha śledu. Budynak hramadzkaha žyćcia biaz mocnaha ideolohičnaha fundamentu asudžany na zahubu.

Valilisia ahramadnyja na vajskovaj sile abapiortyja imperyi, jakich nie ažyŭlała paryvajučaja vysokaja ideja, a nievialikija hrupy ludziej, z šlachotnymi paryvami, uzbrojenyja tolki mocnaj idejaj, ščyra pierakananyja ŭ pravilnaść svajoj spravy i zrealizavańnie jakoj ličyli za svoj abaviazak, asiahali pieramohu. Davoli ŭspomnić ab małoj kolkasna hrupie pieršych chryścijanaŭ, jakija tolki mocnym pierakanańniem i vieraj pieramahli ŭzbrojeny ad noh da hałavy pahanski śviet, katory musiŭ paddacca nie tamu, što nia mieŭ fizyčnaj siły, ale tamu, što padhniŭ ideolohična.

Vialikaja baraćba ŭ minuŭščynie — heta baraćba idejaŭ paryvajučych za saboj masy i nakiroŭvajučych ich u adpaviedny kirunak. Pavadyry narodaŭ, navučanyja histaryčnym dośledam, pryjšli da pierakanańnia, što najbolšaj siłaj, najlepšym aružžam u baraćbie źjaŭlajecca ćviordaja ide-

ja. Nie bajcy, nie dyplamaty, ale idei kirujuć śvietam. Nijakaja fizyčnaja siła, ani chitraja palityka nia zdoleje pakanać ideova spojenaj hrupy, źniščyć jaje na zaŭsiody, moža tolki jaje paŭstrymać na niekatory čas.

Ničoha dziŭnaha, što viernyja syny tych narodaŭ, jakich histaryčnyja abstaviny pazbavili na daŭžejšy ci karaciejšy čas samastojnaści, a šyrejšyja masy tracili časta nadzieju ŭ jaje zdabyćcio, — staralisia pakazać niejkuju vyšejšuju ideju, jakaja-b mahła ŭskałychnuć i ŭlić nadzieju ŭ sercy vohułu.

Palaki paśla niaŭdačnych sprobaŭ aružnaj baraćby z silniejšym voraham dla padkraplennia i ŭzbudžennia ŭ sabie nadziei na lepšuju budučyniu vieściać mesjanistyčnyja idei. Toje samaje bačym i ŭ inšych narodaŭ.

Paśla razhramlennia Prusaŭ Napaleonam u 1806 h., kali zaŭvažyŭsia duchovy razstroj niamieckaha narodu, vysoŭvajucca na pieršaje miesca filozafy, katoryja starajucca stvaryć ideolohičny padkład da duchovaha pierałomu niamieckaha narodu.

Tak adzin z najvybitniejšych niamieckich myślicielaŭ Fichte, katory pierad 1806 hodam pašyraŭ ahulna-čałaviečyja dumki, havoračy, što dla eŭrapejca baćkaŭščynaj jość celaja Eŭropa, paśla pahromu Prusaŭ źmianiŭ svoj pahlad.— Narod, kaža jon u svaich vykładach, katoramu adabrana niezaležnaść, a pakiniena tolki jarmo, kali choča być čymś u historyi, kali choča svaju duchovuju vartaść ulić u płyń časoŭ, maje pierad saboj adziny šlach: — niachaj tvoryć svoj unutrany śviet i niachaj tvoryć tak, kab nie dadumaŭsia cikujučy na jaho vorah. —

Pad słovam „unutrany śviet" razumieŭ jon pieravychavannie niamieckaha narodu, vytvarennie samapeŭnaści i samaachviarnaści.

Pramaŭlajučy na universtytecie da moładzi — budučyni narodu, — havaryŭ jon: „Chacieŭby, kab z hetaha vohnišča na majoj katedry vybuchła vialikaje połymia i abniało celuju baćkaŭščynu. Niachaj nivodzin z vas nie adyjdzie zhetul nie pastanaviŭšy ŭ nutry, što ŭsie svaje siły paśviacić vialikaj spravie, i niachaj u hetym kirunku pracuje tak, jak-by byŭ jon sam i tolki ad jaho zaležała dabro budučych pakalenniaŭ."

Hetkim sposabam dla kankretnych metaŭ, dla ŭzbudžennia pa tryjatyzmu budavaŭ Fichte ahramadny i ciažki fundament z filozofii najabstrakcyjniejšaj, jakaja moža być, i filazofijaj hetaj uzbudžaŭ hieraizm narodu.

Toje samaje možna skazać ab Heglu i inšych filozafach.

Kali piarojdziem da sučasnaści, to pabačym, što tolki narody scementavanyja adnoj idejaj, katorym pryśviečvaje adna vialikaja meta, pradstaŭlajuć realnuju siłu i nadajuć ton usiamu palityčnamu žyćciu. Kirujučyja dziejniki henych narodaŭ, razumiejučy, što fizyčnaja siła źjaŭlajecca niedastatkovaj da budavannia hramadzkaha i dziaržaŭnaha budynku, kab zdabyć sabie aporu ŭ narodzie pačali tvaryć roznyja palityčnyja prahramy i pašyrać ich pry pamočy dobra sarhanizavanaj prapahandy. Vystaŭlajuć dabro nacyi, dziaržavy ci klasy.

Z peŭnaściu možam skazać, što narod, katory ŭ vyniku niepryhilnych dla jaho histaryčnych abstavinaŭ staŭsia pieramožanym i straciŭ toje, što źjaŭlajecca jamu najdaražejšym — samastojnaść,—nia žhinie,kali nie załamaŭsia duchova, kali jahonaje serca ahravaje šlachotnaje zadannie zdabyćcia sabie naležnych pravoŭ. Ni militarnaja siła, ani chitraja palityka voraha ničoha tady nia zrobiać.

Ideju možna zvajavać tolki idejaj. Jrk.

# ГРАЖДАНКА — БЕЛАРУСКІМ АЛЬФАБЭТАМ

Справа альфабэту ў беларускім нацыянальным жыцьці ня простая. Скамплікаваў яе гістарычны лёс беларускага народу. Факт ужываньня ў беларускай сучаснасьці адначасна дзьвёх азбукаў гэта плод гістарычных падзеяў. Зьяўляецца ён аднэй з многіх праяваў глыбокага і балючага дуалізму ў беларускай культуры, які паўстаў пад дзеяньнем на беларускі народ двух эўрапэйскіх культурных кірункаў: усходняга і заходняга. Беларускі народ, знаходзячыся на пагранічча Усходу і Заходу, каб ўратаваць сваю самастойнасьць, змушаны стварыць з дзьвёх культураў, усходняй і заходняй, дагодную сабе сынтэзу. Спробы ў гэтым кірунку рабіліся ўжо ня раз у мінуўшчыне, праводзяцца яны і ў сучаснасьці. Напатыкалі яны аднак многа перашкодаў, часта зусім незалежных ад сілаў беларускіх. І ў цяперашніх абставінах агульнае дэфінітыўнае вырашэньне гэтай справы зьяўляецца немагчымым. Але гэта зусім ня значыць, што Беларусы не павінны імкнуцца прынамся ў кірунку злагоджаньня культурнага раздваеньня. Беларускі адраджэнскі рух гэтую праблему дацэньвае і над адпаведняй разьвязкай яе працуе.

Працу гэту бачым між іншым у справе альфабэту, якая сталася адным з аснаўных пытаньняў адраджэньня самастойнага культурна-палітычнага быставаньня беларускага народу. Беларускія адраджэнцы, разважаючы над фактам ужываньня ў Беларусі адначасна двух альфабэтаў: гражданкі і лацінкі, з узглядаў практычных стараліся яе як найлепш вырашыць. Парушылі яе ў першую чаргу рэдакцыі беларускіх часапісаў, якім хадзіла аб як найбольшы доступ да шырокіх масаў беларускага народу. Цяпер важнасьць гэтай справы ляжыць у тым, што ня ўсе Беларусы знаюць адначасна абедзьве азбукі, некаторыя апанавалі і ўжываюць толькі адну з дзьвёх. Дзеля таго зусім натуральным зьявілася пытаньне, якімі літарамі трэба друкаваць беларускія газэты, каб як найлепш задаволіць імі беларускіх чытачоў.

Каб атрымаць адказ на гэта пытаньне, у 1910 г. рэдакцыя «Нашае Нівы» абвесьціла апытальнік, які ў выніку даў перавагу гражданцы. У пазьнейшым часе падобную анкету правадзілі і іншыя рэдакцыі. Справа гэта знайшла свой водгук і ў беларускіх навуковых установах. 14 лістапада 1926 г. у Менску Інстытут Беларускай Культуры склікаў Акадэмічную Конфэрэнцыю дзеля рэформы беларускай азбукі і правапісу, на якой між іншым абгаварвалася і думка аб замене гражданкі лацінкай.

У канцы 1930 г. справу альфабэту парушыла і рэдакцыя «Шл. М.», абвяшчаючы анкету— плебісцыт у форме адказаў і ўвагаў чытачоў на пастаўленыя ім чатыры пытаньні, хто якімі літарамі ўважае за патрэбнае друкаваць «Шл. Мол.»: 1) гражданкай выключна, 2) лацінкай выключна, 3) гражданкай і лацінкай разам у вадным нумары, і 4) адзін нумар гражданкай, а другі лацінкай. Пле-

бісцыт гэты выклікаў у чытачоў «Шл. Мол.» жывую дыскусію, якой доказам зьяўляецца цэлы доўгі рад артыкулаў і зацемак на тэму азбукі, які друкаваўся ў кожным нумары «Шл. Мол.» амаль на працягу цэлага году. У дыскусіі высоўваліся рознародныя аргумэнты за або процію паасобных разьвязкаў справы, запрапанаваных рэдакцыяй. Верх узяло кампрамісовае становішча—большасьць выказалася, з некаторымі засьцярогамі, за друкаваньне «Шл. М.» адначасна ў вадным нумары і гражданкай і лацінкай.

Гэткую разьвязку справы ў цяперашніх варунках нацыянальнага жыцьця Беларусаў можна ўважаць найадпавяднейшай. Прынялі яе многа беларускіх газэт. Такі стан рэчы аднак прадстаўляецца часовым. У будучыні Беларусы з многіх узглядаў мусяць здэцыдавацца на адзін альфабэт. Сяньня, застанаўліваючыся над пытаньнем беларускай нацыянальнай абэцэды, кожны Беларус не павінен памінаць між іншым гістарычнай ролі, якую ў Беларусаў адыграла гражданка.

Гражданка паўстала з альфабэту царкоўна-славянскага, які зьявіўся ў Беларусі з прыймом хрысьціянства ў X стаг. З бегам часу альфабэт царкоўна-славянскі зьмяняўся, датарноўваючыся да вымогаў поступу. Бяз зьменаў захаваўся ён да сяньня толькі ў жыцьці царкоўным, тачней гаворачы, у царкоўна-славянскіх кнігах, з каторых духавенства моліцца ў царкве. У агульным ужытку альфабэт царкоўна-славянскі з часам стаў звацца кірыліцаю. Назоў гэты не азначае аднак, што выдумаў яе сьв. Кірыла. Сьв. Кастанцін-Кірыла, як ведама, быў славянскім апосталам у IX стаг., і сапраўды выдумаў ён славянскі альфабэт, які таксама зваўся сьпярша кірыліцаю, аднак была гэта кірыліца зусім іншая ад тэй, якая ўжывалася на беларускіх землях. Запраўдная кірыліца, г. зн. каторая паходзіла ад сьв. Кірылы, пазьней стала звацца глаголіцаю, якую і цяпер ужывае ў літургічных кнігах часьць каталіцкіх Харватаў.

Кірыліцу-ж, якая паходзіць з царкоўна-славянскага альфабэту і якая ўжывалася ў Беларусі, стварыў адзін з вучняў сьв. Кірылы, бяручы дзеля гэтага ўзор з альфабэту грэцкага. Была яна цяжкая да пісаньня — літары ейныя мелі многа выкрунтасаў і дзеля таго мусіла паддацца рэформам. Першы раз зрэформаваная кірыліца звалася скорапісьсю. Другую вельмі ўдалую рэформу кірыліцы правёў у пач. XVIII ст. беларускі вучоны Гальяш Капіевіч-Капіеўскі. Праз сваю рэформу прыблізіў ён кірыліцу да альфабэту лацінскага. Ягоная рэформа хутка распаўсюдзілася і сталася слаўнай. Прынялася яна ня толькі ў Беларусаў, але і ўва ўсіх тых Славян, што дагэтуль карысталіся кірыліцаю старой, нерэформаванай (Украінцы, Баўгары, Сэрбы, Маскоўцы). Прычыніўся да гэтага між іншым дагодны факт: Капіевіч-Капіеўскі зрэформаваў кірыліцу жывучы ў Голяндыі, гдзе ў тым часе прабываў акурат і маскоўскі цар Пётра I. І вось-жа цару спадабалася Капіевічавая рэформа і ўказам увёў ён яе ў сьвецкія, ці інакш цывільныя (у Маскалёў з баўгарскага—гражданскія) кнігі. (У багаслужэбных кнігах усюды дагэтуль асталася кірыліца нерэформаваная). З гэтуль паўстаў і назоў зрэформаванай кірыліцы — гражданка. Др. Я. Станкевіч, ведамы беларускі філёлёг, уважае гэны назоў няправільным. «Справядлівасьць вымагае, кажа ён, каб у назове рэформаванай кірыліцы адбівалася нацыянальнасьць яе рэформатара і дзеля таго павінна яна звацца беларускім альфабэтам. У пагатове самі Беларусы павінны яе гэтак зваць.»

Сапраўды трэба з гэтым паглядам др. Я. Станкевіча згадзіцца і яго ў беларускім жыцьці спопулярызаваць і зрэалізаваць, адкідваючы чужую заслону, закрываючую запраўднае аблічча гістарычнай мінуўшчыны беларускага альфабэту.

Дзеля паўнаты абраза мусім дадаць, што ў часе беларускага адраджэньня беларускі альфабэт яшчэ крыху ўдасканальніўся, пайменна ў XIX ст. уведзена была літара «ў,» а літара *щ* заменена двума гукамі *шч* у XX ст. месца літары „*и*“ заняла аканчальна літара „*і*“.

Каб завяршыць рэформу Капіевічаву, др. Я. Станкевіч прапануе „*й*“ замяніць літараю „*j*“ (значыцца пісаць „*свој*,“ а ня „*свой*“ і пад.) ды замест *е, ё, ю, я* па самагуку пісаць *je, jo, jy, ja*, пакідаючы *е, ё, ю, я* па сугуках. Прыкл.: Сястра Јазэпа чытаје мају кнігу. Гэтак даўно зрабілі Сэрбы. Гэтак і пастанавіла вышэй успомненая Навуковая Конфэрэнцыя ў Менску ў 1926 г., але пастанова гэта ня была праведзена ў жыцьцё. Літары «і« адпавядае «j», а ня «й». Апрача таго «j» выразьнейшая ў чытаньню і практычнейшая (меней месца) у пісаньню і ў друку.

Гэтак прадстаўляецца ў агульным нарысе гістарычны развой г. зв. гражданкі, якая ў беларускім жыцьці адыграла і адыгрывае першарадную ролю.

Гэтым ня можа пахваліцца ў нашым жыцьці лацінка, каторая паслужыла нават аружжам чужой экспансыі на Беларусь. Дзеля таго, што нясьведамыя Беларусы-каталікі ідэнтыфікуюць лацініцу з польскім альфабэтам, сталася неабходнай адпаведная яе рэформа. Гэтая рэформа ўжо зроблена— прыняты ўмоўныя значкі для літараў, адпавядаючых беларускім *ў, ч, ш, ж, — ŭ, č, š, ž* ды зьменена нямецка-польскае *w* на *v*. Дзеля таго лацініцы ня можна зваць польскімі літарамі, а трэба называць яе беларускай лацініцай.

У сучасных абставінах, калі беларускіх школаў бадай зусім няма, беларуская моладзь фактычна адгароджана ад беларускага альфабэту, а гэтым самым ня мае нармальнага доступу да беларускай літаратуры старой і сучаснай друкаванай пераважна гражданкай. Часта можам спаткаць так-жа і сярод беларускіх студэнтаў такіх, якія ня знаюць беларускага альфабэту (гражданкі).

Вось-жа прызнаючы гражданку беларускім альфабэтам, беларускі маладняк павінен імкнуцца да таго, каб кожны Беларус пазнаў гражданку і ею мог карыстацца.

*Ч. Н.*



## Z žyćcia biełaruskich studentaŭ

10.XII.1938 Bieł. Studencki Sajuz zładziŭ u zali Śniadeckich USB u Vilni kancert z učaściem słaŭnaha śpievaka Michała Zabejdy-Sumickaha i choru Bieł. Stud. Sajuzu pad kiraŭnictvam R. Šyrmy. Mima ŭsiakich niavyhodaŭ, kancert hety prajšoŭ vielmi ŭdačna, z vialikim vysaka-mastackim i mataryjalnym efektam, za što studenty asabliva ŭdziačny Pavažanamu Mastaku M. Zabejdzie-Sumickamu i Rehientu R. Šyrmie.

×

21.I.39 BSS ładziŭ u Vilni viečarynu, katoraja prajšła vielmi ŭdačna.

×

22.I.39 Tavarystva Biełarusaviedy raspačała ŭ VI zali hałoŭnaha budynku USB u Vilni cykl lekcyjaŭ, pryśviačanych abznajamleńniu studentaŭ Biełarusaŭ, absolventaŭ polskich himnazijaŭ, z hramatykaj i pravapisam biełaruskaha jazyka dy z historyjaj biełaruskaj litaratury. Referentami źjaŭlajucca dr. J. Stankievič i dyr. A. Łuckievič. Pieršy referat dr. J. Stankievića byŭ pryśviačany adnej z asablivaściaŭ biełaruskaj movy — akańniu. Dyr. A. Łuckievič pradstaviŭ ahulny narys historyi biełaruskaj litaratury, u dalejšych-ža referatach maje šyrej abhavaryć jejnyja paasobnyja peryjady.

Nastupnyja lekcyi z hetaha cyklu buduć pastajanna adbyvacca što niadzieli i śviaty ŭ VI zali universyteckaj a 17 h. Pažadana, kab usie biełaruskija studenty, asabliva tyja, katoryja słaba znajuć biełaruskuju movu i litaraturu, pastaralisia skarystać z hetaha duža karysnaha kursu Biełarusaviedy. Učaście ŭ lekcyjach biaspłatnaje.

## Z mižnarodnaha žyćcia studentaŭ

U studni miesiacy sioleta ŭ Polšču ŭ Krynicy adbyŭsia źjezd 22 Rady CIE (Mižnarodnaj Konfederacyi Studentaŭ), jaki miž inšym pryniaŭ prapanovu załažeńnia ŭ Anhlii mižnarodnaha biura studenckich praktykaŭ pakul što na probu, na 1 hod. Aprača taho na źjeździe hetym padrabiazna abhavarvałasia prahrama letniaj studenckaj alimpijady, jakaja maje adbycca ŭ žniŭni sioł. u Niamieččynie. Adbylisia tak-ža pieravybary ŭładaŭ CIE. Staršynioj vybrany Palak, Jury Pšeździecki.

### „..Скажам—сказаў без'языкі...“

**Ад Рэдакцыі:** Пад гэтым загалоўкам і ў гэтым месцы будзем у кожным нумары нашага часапісу зьмяшчаць публіцыстычны твор ведамы пад назовам фэльетону. У нас гэтага жанру не хапае, хоць у Беларусаў ёсьць прыгожая традыцыя гумару высокай пробы: „Маланка.“ Дык папрабуем навастрыць пёры, калегі!

На пачатак зьмяшчаем фэльетон калегі ВУК'а.

## Сумны фэльетон

Напісаў я загаловак ды баюся, што мяне зараз чорным пэсымістам назавуць, а рэдактар далей і чытаць ня будзе — проста скомкае паперу ды... павесіць на гвозьдзік да першае патрэбы (у яго, беднага, нават традыцыйнага кошыка няма, а ў печы паліць рукапісамі хіба нельга — бо зашмат у іх вады).

Але выбачайце! — ад'ехаў я ад тэмы, а гэта дрэнны знак для дэбютанта.

Дык вось, кажу, баюся, што мяне за мой загаловак шапкамі закідаюць (перш-наперш студэнты, бо ў іх кроў маладая ды... ёсьць запас студэнцкіх шапак, якіх на галаву надзець ня можна... „ze względów bezpieczeństwa publicznego“ — такімі можна кідацца: і так молі зьядуць). Але хоць і баюся—загалоўка не перачыркну: сапраўды невясёлы мой фэльетон.

Скажаце—„Дык чаго ты, дурань, са сваімі сумнымі фэльетонамі вылазіш? Вясёлага напісаць ня ўмееш? Мала табе тэмаў? Натое-ж ён фэльетон, каб быў вясёлы. Калі-ж ня поп, ня ўбірайся ў рызы!

Пачакайце, братцы, дайце адказаць:

Пер наперш ваша параўнаньне нятрапнае, — цяпер такіх непапоў, што рызы носяць, на пальцах рук і ног не пералічыш. Ды гэта толькі так — паміж іншым; тымчасам гэтая справа нас бліжэй ня цікавіць.

А вось у справе фэльетону: Ня першы я пішу фэльетон, ды толькі вось другому ўдалося белы сьвет і твой, шмат-паважаны твар, чытач, пабачыць. Іншыя... ў печцы пагрэліся. Не хацелася, бачыце, каб пан цэнзар рукі сабе мазоліў падстрыгаючы непакорныя і задзёрыстыя сказы.

А тэмы да фэльетонаў—праўду кажаце — розныя ёсьць. Толькі глянуць у газэту, знаёмага сустрэць, прачытаць загад солтыса — тэма гатовая. Проста Эльдорадо для фэльетоніста.

Хоць-бы тыя студэнцкія шапкі, якіх насіць ня можна „ze względów bezpieczeństwa publicznego.“

Або—тыя дэкларацыі аб роднай школе, што гадамі ляжаць без адказу...

Або—„Шум бaравы,“ выдадзены ў 1927 годзе а сканфіскаваны ў... 1938 г.

Або—весткі ў польскіх віленскіх газэтах аб тым, што новага праваслаўнага біскупа ў Вільні віталі прадстаўнікі тутэйшага беларускага грамадзянства, а назаўтра перадавіцы ў тых самых газэтах—нэгуючы існаваньне Беларусаў у межах Рэчыпаспалітай Польшчы.

Або — тыя „pieśni... ludowe Ziem północno-wschodnich“, якія падае віленскае радыё і ў якія нейкі цёмны перакладчык на польскую мову залічыў і „Зіму“ Коласа.

Або ..

Не—даволі ўжо. Гэткіх тэмаў не пералічыш і пісаць на іх ня раджу — шкада паперы, бо і так прыйдзецца спаліць у печы... Ды я ўжо моцна разьбядаваўся... Ёсьць-жа і весялейшыя тэмы. Больш прыватныя—кіна, спорт, каханьне.

Але, якое тут каханьне!... Пра гэта будзем гаварыць вясной. А цяпер мароз прабіраецца пад вынашанае пальто, кусаецца ў вушы і студзіць маладую кроў.

Адным словам, вясёлага фэльетону напісаць не магу.

Спытаецца нехта: „Дык навошта ты, наагул, пішаш?“

А, братцы, тут справа іншая:

Перш-на-перш: выпішыся — на сэрцы палягчэе... А апрача таго пісаць трэба, каб пяро ня ссохлася.

Бо я цьвёрда веру, што давядзецца мне пісаць і радасныя фэльетоны.

Terra rotunda est

*ВУК*

**DA VIEDAMA BIEŁARUSKICH STUDENTAŬ:** Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2 (pry drukarni). Dyžury adbyvajucca štodzień ad hadz. 18.30 da 21.

**Kožny student Biełarus pavinien naležać da biełaruskich studenckich arhanizacyjaŭ.**